# Тыднёвік Магілёўскі

№ 17 (17)

29.08.97.



## "БЕЛАЯ КНІГА": ЛЕТАПІС СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДЫКТАТУРЫ

**Магілёўскае аддзяленне Беларускага Хельсінскага Камітэта — найбольш аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі ў абарону дэмакратыі, правоў і свабодаў асобы, — якое ўзначальвае вядомы ў вобласці і рэспубліцы малады вучоны і грамадскі дзеяч ВАЛЕРЫ СІВУХА, вядзе вельмі важную для гісторыі і сучаснага стану грамадства працу (няхай нікому не падаюцца гэтыя словы зашмат гучнымі). Гэтая работа, аднак, малавядомая грамадскасці, бо па свайму зместу і характару яна, на вялікі жаль, цалкам непажаданая для сённяшняй улады. Аддзяленне БХК дэталёва фіксуе ўсе парушэнні правоў чалавека па палітычных матывах, абагульняе іх і занатоўвае ў т.зв. "Белую Кнігу", якая, мажліва, калі-небудзь станецца своеасаблівым абвінавачаннем на маральным судзе над сістэмай, якая ўсталёўваецца ў нашай краіне высілкамі канкрэтных асобаў у процівагу дэкляраваным заявам, міжнародным дамовам ды ўласным законам. А мажліва і на крымінальным судзе, для чаго ёсць абгрунтаванне ў выглядзе Закона, прынятага ў першым чытанні легітымным Вярхоўным Саветам, — аб адсутнасці тэрміну даўнасці за службовыя злачынствы, якія парушаюць правы і свабоды грамадзян.**

**Сёння ТМ цалкам аддае сваю 3-ю стар. для першай публікацыі фрагмэнтаў з мясцовай "Белай Кнігі".**

ЗАМЕСТ УЗНЁСЛАГА РЭПАРТАЖУ

## ШТО ЗРОБІШ, ТАК АТРЫМАЛАСЯ

*Атрымаўшы рэдакцыйнае заданне, я зьявіўся да месца ўрачыстага адкрыцця 2-га міжнароднага пленэру па жывапісу, які сёлета прысвечаны 125-годдзю В.К.Бялыніцкага-Бірулі, за гадзіну да прызначанага часу. Але не пашкадаваў. Каля будынка магілёўскага факультэта Беларускай Акадэміі музыкі, што ў скверы па праспекту Міра, адчувалася тая перадсвяточная мітусня арганізатараў, самадзейных артыстаў, апранутых у яркія нацыянальныя касцюмы, аркестрантаў, журналістаў з фотакамерамі, магнітафонамі і блакнотамі, што па-свойму падмацоўвае ўрачысты настрой гледачоў: вось-вось пачнецца...*

*І пачалося. Спачатку былі гучныя, узмоцненыя на ўвесь горад апаратурай, заклікі вядучых урачыстасць да магілёўцаў, каб тыя не абмінулі падзею. Заклікі прамаўляліся па-руску, што гучала неяк недэлікатна і некарэктна, бо надта кантраставала з падставай, убраннем і, зразумела, зместам маючага адбыцца свята. Гэтыя заклікі, шчыра скажам, новых людзей да тых, хто ўжо прыбіўся да скверу, не дадалі. Зразумела, што мова абвестак тут не мела вырашальнага значэння. Хаця хто ведае: магчыма, што беларускія словы, якія так рэдка гучаць у нас, маглі б стаць прыцягальным фактарам для людзей, што спяшаліся міма...*

*Як бы тое ні было, урачыстасць пачалася, бо зьявіліся асноўныя дзеючыя асобы. Яны, а гэта ўсё "культурнае" начальства горада і вобласці, крыху пастаяўшы на прыступках, зніклі за дзвярыма будынка. І ўжо адтуль павольна і папарна, пад гукі аркестравага маршу зьявіліся на вочы гледачоў. З усіх бакоў да іх з кветкамі кінуліся па-нацыянальнаму апранутыя дзяўчаты. Чакалася, што недзе тут падрыхтаваны для "дарагіх гасцей" традыцыйны хлеб-соль на ручніку. Але абышлося.*

*Да мікрафону запрасілі намесніка старшыні аблвыканкама (на час пленэру ён і намеснік старшыні яго журы) Яўгена Касцюковіча. Пачаўшы сваю вітальную прамову з недарэчнага тут звароту "дорогие товарищи" і чытаючы яе па паперы, напісанай на рускай мове, ён тым не менш націскаў на такія словы ў расповядзе аб жыццёвым і творчым шляху слыннага земляка, як "беларускі", "нацыянальны", "самабытны". Праўда, дома гэтыя ацэнкі больш натуральна гучалі б, згадзіцеся, па-беларуску.*

*Затым было абвешчанне прывітання ўдзельнікам пленэру і магілёўцам ад прэзыдэнта, які знайшоў час, нягледзячы "на складаную міжнародную абстаноўку" ў сувязі з абвастрэннем адносінаў з Масквой, павіншаваць мастакоў і гараджан з выдатнай падзеяй у культурным жыцці на сваёй "малой радзіме". Прэзыдэнцкае віншаванне было напісанае на беларускай мове, што было не без спагадлівага здзіўлення ўспрынята прысутнымі. Цёплыя пачуцці пры гэтым перапалі і Я.Касцюковічу, якому як самай афіцыйнай асобе на ўрачыстасці, было даручана агалосіць прэзыдэнцкае пасланне. А значыць прадэманстраваць і сваё веданне роднай мовы, з чым ён лёгка справіўся.*

*Яшчэ адзін эпізод на ўрачыстасці немажліва абмінуць. На ёй было зачытанае віншаванне і Ўказ аб прысваенні звання заслужанага работніка культуры рэспублікі начальніку адпаведнага абласнога ўпраўлення Міхаілу Дарашкову. Аднак выкарыстанне нагоды пленэра для гэтага не падалося дарэчным і ўдалым: людзей, як ужо адзначалася, было мала, многім прозвішча новага заслужанага работніка нічога не казала, а самадзейныя артысты да гэтай хвіліны ўжо адпляскалі ў далоні прэзыдэнту і намесніку старшыні. Момант прынароднага прызнання не ўразіў. Відаць, прыйдзецца паўтарыць яго на іншых "культурных мерапрыемствах", якіх у нас наперадзе яшчэ безумоўна шмат. Не справядліва, калі такое высокае прызнанне не атрымае заслужанага грамадскага рэзанансу.*

*Такім чынам, як бачыце, не атрымваецца ў аўтара ўзнёслага рэпартажу. Не ведаю, што тут прычынай. Мажліва, проста дрэнны аўтарскі характар, якому не дагадзіць. Або спякота, што акутвала месца імпрэзы і ад якой няма куды было схавацца. Ці абыякавасць да ўрачыстасці, праяўленая магілёўцамі. Цяжка сказаць. Але атрымалася так, як атрымалася. І ў арганізатараў, і ў мяне.*

**Генадзь СУДНІК.**

## Магілёўская гарадская арганізацыя БНФ

**распачынае збор подпісаў жыхароў горада. Просім запоўніць гэты падпісны ліст і даслаць у рэдакцыю газеты.**

*Мы, жыхары горада Магілёва, што падпісаліся ніжэй, патрабуем адмяніць аплату за праезд у грамадскім транспарце г. Магілёва для дзяцей школьнага ўзросту.*

| № | Прозвішча, ініцыялы | Месца жыхарства | Подпіс |
|---|---|---|---|
| | | | |

## ПРЫЕМНА, ШТО НЕ ЎСЕ Ў НАС БАЯЦЦА СКАЗАЦЬ СВАЁ СЛОВА

Гэты падпісны ліст (гл. вышэй) ТЫДНЁВІК змясціў у сваім 14-ым нумары ад 1-га жніўня, якраз за месяц да пачатку навучальнага года. Шчыра сказаць, ані ініцыятары збору подпісаў, ані рэдакцыя не надта спадзяваліся на актыўнасць людзей, нават нягледзячы на актуальнасць пытання. Па-першае таму, што наогул ці мала ў нас актуальных праблем, а па-другое — і гэта, на жаль, перавагае ў краіне амаль любую жыццёвую праблему — таму, што грамадства запалоханае і пасіўнае.

На здзіўленне і радасць нашыя чытачы адгукнуліся на анкету. Рэдакцыя непасрэдна на свой адрас атрымала некалькі запоўненых падпісных лістоў, у якіх людзі (не можам не падкрэсліць гэта яшчэ раз) без баязлівасці паставілі свае подпісы і назвалі адрасы, як гэтага і патрабуе такая форма выяўлення грамадскай думкі. Мы з задавальненнем называем прозвішчы тых, хто адгукнуўся на ініцыятыву мясцовай філіі БНФ: *В.* і *Л.Кавалёвы, А.Бабкоў, М.Шацкі, А.Індух, С.* і *І.Досавы, Б.* і *Н.Маркашанскія, І.Ліцянкова, М.Дзярнак, Ж.Міхадзёнак, Г.Рагаўцова, В.Бутычына, С.Панцакова, А., В.* і *М.Алексы...*

Шчыра прызнаемся яшчэ, што мала спадзеву на тое, што ўлада прыслухаецца да меркавання грамадскасці. Тым не менш разам з ініцыятарамі апытання лічым, што яна павінна ведаць думкі людзей і абгрунтавана ўлічваць іх у сваіх рашэннях. Таму друкуем падпісны ліст яшчэ раз: пытанне, згадзіцеся, застаецца актуальным ці нават абвастраецца ў сувязі з заканчэннем школьнага лета.

МЫ ЛЮДЗІ — ПАКУЛЬ ПАМЯТАЕМ

# НЯМА ЦІШЫНІ НА ГАБРЭЙСКІХ МОГІЛКАХ

Габрэйскія могілкі ў Магілёве паступова становяцца адным з самых жахлівых прыкладаў варварскіх адносінаў дзяржавы да культурнай, духоўнай ды й проста жыццёвай спадчыны сваіх грамадзян.

Габрэйскія могілкі, як і суседнія з імі "рускія" — відаць, старэйшыя ў горадзе. Аўтар бачыў іх на мапе яшчэ 18-га стагоддзя. Вядома, што раней габрэяў хавалі асобна. Звязана гэта было ня толькі з адасобленым жыццём тагачаснай габрэйскай грамады. Рэлігійныя традыцыі — вось што найперш вымагала меціць такую адасобленасць.

Час мінаў, міжрэлігійная мяжа паступова знікала, але могілкі заставаліся адасобленымі. У гэтым быў ужо і свой гістарычна-культурны сэнс, бо могілкі маглі і павінны былі б пераўтварыцца ў своесаблівы агульны мемарыяльны помнік. Як ва ўсім свеце.

Год за годам наведваюся я сюды. Год за годам прыходзіцца назіраць, як на вачах людзей могілкі становяцца сметнікам. Але такім сметнікам, у якім і зараз адбываюцца пахаванні, дзе ў зямлю і зараз апускаюць труны з нябожчыкамі. Шматлікія спробы аўтара на працягу некалькіх гадоў хоць неяк прыцягнуць увагу да гэтага жахлівага відовішча ўвесь час натыкаліся на посмешкі рознакаліберных дзяржаўных чыноўнікаў. "А дзе ж вашы багатыя мясцовыя габрэі ды тыя, што з'ехалі? У дзяржавы зараз грошай бракуе. А ў вас, габрэяў, яны ёсць. Вы самі і займайцеся гэтым пытаннем", — казаў мне адзін былы намеснік магілёўскага мэра. "Што вы лезеце з вашымі праблемамі, калі ў нас хапае іншых!" — адмахнуўся другі чыноўнік. Калі аўтар паспрабаваў высветліць ці збіраецца штосьці рабіць ужо лукашэнкаўская вертыкаль, то ўвогуле не здолеў знайсці нікога, хто бы змог мне на гэта адказаць.

Я не збіраюся апраўдваць габрэйскую грамаду. Мажліва, яна сапраўды магла б узяць на сябе частку клопату і выдаткаў. Але ж не ў лепшым стане ў нас і "польскія", і "рускія", і Успенскія могілкі. А ці не вар'яцтва, што дарогу на вуліцы Крупскай праклалі па костках немцаў, якія памёрлі тут падчас апошняй вайны? У гарвыканкама знаходзяцца шалёныя грошы на агульнагарадскія святы, а на памяць людскую — няма.

А зараз на габрэйскіх могілках адбываецца проста жах. Яны афіцыйна зачыненыя, але на іх працягваюцца пахаванні: я бачыў днямі паміж магіламі вялізныя кучы смецця, сярод якога жаўцелі чалавечыя чэрапы і паваленыя адзін на адначго надмагільныя помнікі мінулых часоў з надпісамі іўрыцкай вяззю... А зусім непадалёк нехта капаў новую яміну, не звяртаючы ўвагі на суседскія магілы.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН.**

МАГІЛЁЎ: ДАЎНІНА І СУЧАСНАСЦЬ

ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД І.ПУШКІНА

## КОЛЬКІ НАСЕЛЬНІЦТВА ЖЫЛО Ў МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕРНІІ НАПРЫКАНЦЫ XIX СТ.?

Магілёўская губерня ў канцы XIX-пачатку XX ст. ст. складалася з паветаў: Магілёўскага, Быхаўскага, Гомельскага, Горацкага, Клімавіцкага, Мсціслаўскага, Аршанскага, Рагачоўскага, Сенненскага, Чавускага, Чэрыкаўскага.

Усяго ў губерніі налічвалася насельніцтва 1.686.764 чалавекі.

Па агульнай колькасці насельніцтва на першым месцы знаходзіліся паветы: Гомельскі (224723 ч.) і Рагачоўскі (224652 ч.), на апошнім Чавускі павет (88686 ч.). Для параўнання: у Магілёўскім (155740), Чэрыкаўскім (150277), Клімавіцкім (143287), Быхаўскім (124820), Горацкім (122559), Мсціслаўскім (103300).

Аднак колькасць насельніцтва не знахозілася ў прамых суадносінах з яго шчыльнасцю.

Найбольш шчыльна быў заселены Магілёўскі павет — на 1 кв. вярсту прыходзілася 51,74 чалавека (з улікам г.Магілёва, дзе жыло 43119 асоб) і Горацкі — 49,27. Без уліку гарадоў Горацкі — 45,25 і Мсціслаўскі — 42,69. Тут Магілёўскі знаходзіўся толькі на трэцім месцы.

Найменш заселенымі былі Рагачоўскі (34, 31 і 32,90) і Быхаўскі (30,40 і 27,85) паветы.

## АДКУЛЬ ПАХОДЗІЛА НАСЕЛЬНІЦТВА?

Вылучаліся чатыры групы насельніцтва Магілёўскага краю: ураджэнцы мясцовыя (таго ж павета ці горада, дзе жылі), ураджэнцы іншых паветаў той жа губерні, ураджэнцы іншых губерняў і ураджэнцы замежных дзяржаў.

У паветах Магілёўскай губерні мясцовыя ўраджэнцы складалі найбольшую масу насельніцтва (93,29%). У гарадах іх было значна менш (68,47%). Павялічвалася лічба ўраджэнцаў іншых губерняў (16,36%) у асноўным з цэнтральнай часткі Расійскай імперыі. У гарадах гэта тлумачылася тым, што кіраўнікі мясцовай адміністрацыі былі прыезджымі.

## ЯКІЯ ГРУПЫ НАСЕЛЬНІЦТВА ПЕРАВАЖАЛІ?

Напрыканцы XIX ст. найбольшай групай насельніцтва ў Магілёўскай губерні і ў паветах без гарадоў былі сяляне (80,13% і 85,70%), а ў гарадах мяшчане (67,92%). Аднак, трэба адзначыць, што ў гарадах хапала і сялян (21,78% ад усяго гарадскога насельніцтва) і, наадварот, багата было мяшчан у паветах (12,46%). Гэта можна растлумачыць тым, што ў губерні было нямала мястэчак, напрыклад, Шклоў, Крычаў і інш., якія да канца XVIII ст. лічыліся гарадамі і мелі гарадскі лад, згодна з Магдэбургскім правам.

У гарадах жыло даволі шмат шляхты як патомнай (3,42%), так і асабістай, улічваючы сярод апошняй і чыноўнікаў (2,64%). У паветах патомная шляхта складала толькі 1,11% ад агульнай колькасці насельніцтва.

## ЯКОЙ ВЕРЫ ТРЫМАЛАСЯ НАСЕЛЬНІЦТВА ЗГОДНА ПЕРАПІСУ 1897 Г.?

Першае месца сярод насельніцтва губерні займалі праваслаўныя (83,13%), потым ішлі іўдзеі (12,09%), далей рыма-каталікі —2,98%, старaабрадцы (1,39%), пратэстанты (0,41%).

Праваслаўных найбольш было між беларусаў (97,81%) і ўкраінцаў (96,97%). Няшмат іх між рускіх (62,7%), 35,08% былі раскольнікі-стараабрадцы, 1,65% рыма-каталікі і нават 0,45% (больш за ўсяго сярод іншых) іўдзеі. Праваслаўная вера была даволі пашырана сярод эстаў (35,05%) і латышоў (23,34%).

Даволі высокі працэнт (1,96%) быў беларусаў рыма-каталікаў. А найбольш рыма-каталікаў было між палякаў (99,22%) і літоўцаў (97,80%). Яўрэі на 99,97% вызнавалі іудзейства і толькі 0,03% палічылі сябе праваслаўнымі.

Немцы і латышы ў большасці былі пратэстантамі (83,99% і 67,11%).

## Адказы на крыжаслоў, апублікаваны ў мінулым (16) нумары Тыднёвіка

*ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 3.Большасць. 6.Покуць. 7.Швагер. 11.Ляска. 12.Скокі. 13.Скібіна. 16. Рубель. 17.Шмалец. 18. Улада. 19.Гаць. 20.Рала. 22.Кошык. 25.Рахуба. 26.Пастаў. 30.Сакатун. 32.Сумёт. 33.Бyякі. 34.Часіна. 35.Шчупак. 36.Пацешніца.*

*ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1.Пляцоўка. 2.Псаванне. 4.Бойка. 5.Вейка. 8.Вястун. 9.Нябога. 10.Акраец. 14.Кляцьба. 15.Амбарас. 21.Ланцуг. 23.Шэрань. 24.Затока. 27.Сальніца. 28.Бурачнік. 29.Лёкай. 31.Бугай.*

## У рэдакцыю газэты "Тыднёвік Магілёўскі"

*Ад сябе, сваіх дачок і іхняга дзядулі шчыра дзякую сяброў, палечнікаў, што падтрымалі нас у горы, якое напаткала нашую сямью.*

*Сардэчная ўдзячнасьць гарадзкой асацыяцыі "Кола Сяброў", калектыву лябараторыі МПА "Хімвалакно", якія ўзялі на сябе клопаты, што былі зьвязаныя з пахаваньнем маці маіх дзяцей.*

*Ратуй вас пан Бог, добрыя людзі!*

**В.ЦУРПАНАЎ.**


НАУЧНО-ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ "БЕЛКОТЛОПРОМ"

ПРЕДЛАГАЕТ:

- современные автоматизированные стальные водогрейные и паровые **КОТЛЫ**, модульные **КОТЕЛЬНЫЕ** для отопления объектов бытового и производственного назначения любой производительности;
- **РАЗРАБОТКУ** проектной документации;
- **МОНТАЖ** и реконструкцию котельных;
- **НАЛАДКУ** и пуск котельных.

Тел./факс. (0222) 25-58-77.



Рэдактар Генадзь СУДНІК






Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 17. Тыраж 2100 асобнікаў.